**Выходзяць апошнія дні, калі Вы яшчэ можаце падпісацца на «Народную Волю» на першую палову 2012 года. Не спазніцеся!**

# Народная Воля

**№№197–198 (3534–3535)**

23 снежня 2011 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

БЕЛАРУСЬ—ЕЎРОПА

## Умовы аднаўлення дыялогу ЕС і Беларусі не змяніліся

Умовы аднаўлення дыялогу Еўрасаюза і Беларусі не змяніліся — гэта вызваленне і рэабілітацыя ўсіх палітзняволеных і людзей, якія трапілі пад судовыя працэсы па справе 19 снежня 2010 года. Такую заяву зрабіў 22 снежня на прэс-канферэнцыі ў Мінску пасол Польшчы, краіны, якая старшынствуе ў ЕС, Лешэк Шарэпка.

Дыпламат падкрэсліў, што ў палітычных пытаннях у стасунках з Беларуссю за час польскага старшынства ў ЕС поспехаў дасягнута не было. *"Становішча не занадта змянілася з таго моманту, як мы пачалі старшынства (1 ліпеня 2011 года),* — сказаў Шарэпка. — *Быў перыяд, калі падалося, што на беларускія ўлады паўплывалі нашы аргументы, і яны пачалі выпускаць палітзняволеных, але зараз працэс спыніўся".*

Шарэпка нагадаў, што Беларусь адмовілася ад удзелу ў саміце "Усходняга партнёрства", які праходзіў у Варшаве ў канцы верасня. Апрача таго, зазначыў дыпламат, беларускі бок тармозіць увядзенне ў дзеянне пагаднення аб прыгранічным руху насельніцтва, якое Польшча ратыфікавала яшчэ больш як год таму.

*"У чэрвені мы таксама зноў абнародавалі прапанову пачаць перамовы аб спрашчэнні візавага рэжыму паміж Беларуссю і Еўрасаюзам. Афіцыйны адказ мы так і не атрымалі. Неафіцыйна ж нам адным з чыноўнікаў было сказана, што гэта пытанне не з'яўляецца прыярытэтам для беларускага боку",* — сказаў Шарэпка. Ён падкрэсліў, што для суседніх з Беларуссю Расіі і Украіны гэта пытанне было прыярытэтным, і зараз грамадзяне гэтых краін плацяць за шэнгенскую візу 35 еўра.

*"А ў Беларусі, відаць, багатыя людзі, якія могуць плаціць 60 еўра за такую візу",* — зазначыў пасол.

Ён падкрэсліў, што падчас свайго старшынства ў Еўрасаюзе Польшча рабіла ўсё, каб беларускае пытанне знаходзілася ў цэнтры ўвагі ЕС, а таксама старалася актыўна падтрымліваць дыялог з грамадзянскай супольнасцю Беларусі.

1 студзеня 2012 года старшынства ў Еўрасаюзе пераходзіць да Даніі. Як удакладніла кіраўнік прадстаўніцтва ЕС у Беларусі Майра Мора, якая прысутнічала на прэс-канферэнцыі, у сувязі з тым, што ў Беларусі няма пасольства Даніі, выконваць функцыі старшыні на гэты перыяд будзе прадстаўніцтва ЕС.

**Таццяна КАРАВЯНКОВА, БелАПАН.**

ГАЗЕТА—ЧИТАТЕЛИ

## На ближайшую почту иду!

**Добрый день, уважаемая редакция!**
**Прочитайте, пожалуйста, куплет, который я написал:**

*Бросив в сторону цены, обиды на долю,*
*На ближайшую почту иду.*
*Подписаться на "Народную Волю" —*
*И деньги, и время я все же найду.*

С наступающим Новым годом! Здоровья, счастья, благополучия, удачи, творческих успехов коллективу редакции!

**Иван Григорьевич КАЧУР, минчанин.**

***

*Спасибо, дорогой Иван Григорьевич! Надеемся, Вашему примеру последуют многие почитатели "Народной Воли". Мы, журналисты редакции, сделаем все, чтобы в 2012 году не осталось незамеченным ни одно событие в стране, чтобы каждое слово газеты помогало людям жить, вселяло оптимизм.*

ВІНШАВАННЕ

## «Паяднаемся ў імя светлай будучыні нашай Краіны»

*(З Пастырскага паслання Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча на Божае Нараджэнне)*



Глыбокапаважаныя браты і сёстры!

Нарэшце Божае Нараджэнне! Чатыры тыдні Адвэнту ў чуванні мы чакалі гэтага дня і рыхтаваліся да яго. Дзверы збаўчай Божай ласкі адкрыліся ўсім людзям.

Бог прыходзіць у гэты свет як безабароннае і патрабуючае дапамогі дзіця, прычым прыходзіць у беднай бэтлеемскай стаенцы. Адно з самых важных здарэнняў гісторыі адбываецца ціха і незаўважальна. На пачатку новай гісторыі, абагаўлёнай таямніцай Богаўцелаўлення, Бог ставіць дзіця. Гэтая праўда заахвочвае нас бараніць Божы дар жыцця і чыніць усё магчымае для яго развіцця, каб супрацьстаяць дэмаграфічнаму крызісу і ствараць цывілізацыю любові. Пры гэтым мы павінны ўсвядоміць, што забойства ненароджанага дзіцяці з'яўляецца генацыдам народа, учыненага сваімі рукамі, а смяротнае пакаранне — замахам на Божы дар жыцця і абразай чалавечай годнасці.

Праходзяць стагоддзі, а знак боскага Немаўлятка прамаўляе да нас. Ён з'яўляецца знакам надзеі для тых, хто яе страціў. Знакам міру для тых, хто церпіць. Знакам свабоды для бедных і прыгнечаных. Знакам міласэрнасці для грэшнікаў. Знакам любові і суцяшэння для самотных і пакінутых.

Хоць Божая ласка з'явілася ўсім, аднак не ўсе яе ўбачылі і прынялі. Чаму так ёсць? Таму што не хацелі і не хочуць гэтага.

Таямніцу Богаўцелаўлення можна прыняць толькі ў духу веры. У той жа час сёння з гэтай праўды часта выдаляецца яе рэлігійны змест. Сучасны сусветны гандаль, які не мае нічога супольнага з рэлігіяй, Божае Нараджэнне распачынае ў лістападзе і, з мэтай заахвочвання кліентаў рабіць закупкі, выкарыстоўвае нават рэлігійную сімволіку. Рэлігійныя сімвалы служаць нерэлігійным мэтам. Закупкі, падарункі, гасціны і г. д. з'яўляюцца прычынай таго, што Божае Нараджэнне траціць сваё духоўнае вымярэнне і не пакідае ніякага следу ў нашым жыцці. Прыйшло і прайшло.

Ці такім павінен быць хрысціянскі спосаб святкавання Божага Нараджэння? Ці дастатковай будзе знешне прыгожая атмасфера з непакоем у сэрцы? Ці не павінен хрысціянін у такім клімаце задумацца над тым, што з ім робіцца? Ці не павінен задумацца над таямніцай Богаўцелаўлення? Ці не павінен спытаць самога сябе, якое значэнне ў яго жыцці мае той факт, што больш за дзве тысячы гадоў таму Бог стаўся чалавекам і што Хрыстус кожны дзень нараждаецца для яго ў Касцёле?

Свята Божага Нараджэння павінна стаць тэстам на нашу хрысціянскую тоеснасць, а менавіта — ці хочам мы сапраўды жыць Божай ласкай або толькі прытрымліваемся традыцыі схадзіць у касцёл, купіць дзецям падарункі, павіншаваць блізкіх, а ў штодзённым жыцці застаёмся падобнымі да няверуючых. Больш гуманны свет, пачаткам якога ёсць Божае Нараджэнне, — гэта свет, у якім жыве новы чалавек, здольны супрацьстаяць выклікам часу, асабліва міражам матэрыялізму і кансумізму; супярэчнаму з воляй Божай выкарыстоўванню дасягненняў навукі і тэхналогіі; імкненню да абсалютнай свабоды без Бога; лібералізму ў справах этыкі; абагаўленню амаральных прыемнасцяў і г.д.

Адзін місіянер працаваў у афрыканскай вёсцы, дзе не было вады. Яе трэба было насіць вельмі далёка з ракі. Ён заахвоціў людзей зрабіць артэзіянскую студню, каб заўсёды мець свежую і чыстую ваду. З дапамогаю дабрачынных арганізацый яны рэалізавалі гэты праект. Аднойчы місіянер зайшоў у дом, дзе жыла пажылая жанчына, і папрасіў у яе кубак чыстай вады. Са здзіўленнем ён пачуў, што ў хаце няма пітной вады. "Чаму? — спытаўся місіянер. — Усе ж маюць". "Так, усе маюць, — адказала жанчына. — Але праблема ў тым, што мой унук, з якім я жыву, лянуецца прынесці ваду з артэзіянскай студні".

Вось той пункт, у якім знаходзіцца сучасны чалавек! Можна памерці ад недахопу вады там, дзе яе дастаткова. Чаму? Таму, што вада не з'яўляецца нашай, пакуль мы самі не прыйдзем да яе крыніцы, каб узяць тое, што нам па праву належыць. Каб заспакоіць нашае прагненне і напіцца вады, нам найперш трэба рэалізаваць наша права на ваду.

Падобна і з праўдай Божага Нараджэння. Нам трэба прыняць яе і адчуць у нашым жыцці, у нашых сем'ях, у нашым грамадстве і ва ўсім свеце.

Дарагія браты і сёстры, суайчыннікі, усе людзі добрай волі!

Са святам! З Раством Хрыстовым! Ад усяго сэрца віншую вас з гэтым радасным, збаўчым і даючым новую надзею святам Богаўцелаўлення!

Віншую католікаў і вернікаў іншых хрысціянскіх веравызнанняў, якія сёння адзначаюць гэтае свята. Асабліва віншую братоў і сясцёр праваслаўных, якія перажываюць Адвэнт і ў чуванні рыхтуюцца да свята Божага Нараджэння. Хоць літургічныя календары ў нас розныя, аднак сэнс свята аднолькавы, а менавіта — Богаўцелаўленне. Таксама і мы ў нашым служэнні Народу Божаму павінны быць адзінымі, каб разам сведчыць праўду Евангелля, бараніць хрысціянскія каштоўнасці і на іх будаваць нашае жыццё.

Віншую ўсіх людзей добрай волі. Бог стаўся чалавекам і збавіў усіх. Таму і наша радасць мае права быць супольнай.

У гэтае збаўчае і радаснае свята заклікаю вас глыбока да сэрца прыняць словы прарока нашага часу, Вялікага Папы благаслаўлёнага Яна Паўла II: "Не бойцеся! Адчыніце дзверы Хрысту!" Адчыніце, бо Ён хоча нарадзіцца і быць у нашых сэрцах і іх умацоўваць сваёю ласкаю. Ён дапаможа нам лепей зразумець сябе саміх, наша грамадства і яго праблемы, каб на прынцыпах Евангелля мы маглі вырашыць іх годна, як адпавядае нашаму народу.

Пане Езу Хрыстэ, Ты сваім нараджэннем прынёс сапраўдны мір у гэты свет, адары нас сваёю ласкаю, мудрасцю і трываласцю. Няхай там, дзе праяўляецца азлобленасць, пануе любоў; дзе крыўда — прабачэнне; дзе падзел — еднасць.

Паводле старой традыцыі, у святую ноч Божага Нараджэння ваюючыя бакі на фронце спынялі агонь і нават хадзілі адно да аднаго ў госці. У гэтае свята духоўнага міру і супакою пададзім адно аднаму рукі ў імя народжанага ў Бэтлееме Збаўцы, які такім чынам прысутнічае сярод нас, паяднаемся ў імя светлай будучыні нашай Краіны. Мы ж усе яе дзеці, нам тут жыць і ісці да вечнасці.

АКТУАЛИИ



*Светлана КАЛИНКИНА*

## Кто окажется лысым?

Вы слышали — руководитель украинского женского движения FEMEN Анна Гуцол дала послу Беларуси в Украине Валентину Величко сутки для того, чтобы дипломат покинул страну.

*"Мы возмущены. Мы будем требовать депортации посла Беларуси в Украине,* — сообщила Анна Гуцол в интервью телеканалу "Белсат". — *Если он до завтра не уберется, то мы сами отвезем его в лес, побреем и...".*

Над белорусскими дипмиссиями (и не только в Киеве) нависла действительно серьезная угроза. Я уверена, что если так же быстро, как террористов, наш КГБ не найдет тех, кто издевался над украинками, белорусские послы во всем мире могут остаться лысыми. Потому что женская солидарность — это серьезно, и мировое движение феминисток — это серьезно. Если в Минске известный деятель недавно сокрушался, что европейские политики без яиц, то они не одному такому уже доходчиво объяснили, кто в этом мире с яйцами. И нам объяснили. Приехали аккурат на День чекиста и стали во всей красе на ступеньках главного входа в белорусский КГБ!..

И скукожилась перед такой дерзостью вся мощь белорусской спецслужбы: суетливо бегали какие-то человечки в пиджаках-галстуках в ожидании указаний начальства, не зная, то ли прятаться, то ли реагировать, то ли снимать это все на видео для истории.

Не сомневаюсь, что феминистки, если хорошо разозлятся, обязательно выловят какого-нибудь нашего посла. Выловят, обреют наголо и воткнут в клумбу сдутым одуванчиком. Это — девчата отчаянные. Издеваться и угрожать они, конечно, не будут. Но всем нашим "официозам", которые, работая в свободных Европах, любят хвалить белорусские порядки, надо молиться, чтобы они ничего не перепутали в своей ответной акции и не оскопили ненароком.

Очевидно, что расправы над украинскими феминистками получат куда больший резонанс, чем имела сама акция. Это для нас полуголые женщины на улицах города — акция дерзкая и вызывающая, но для мира подобное — дело привычное. Где-то их не трогают вообще, где-то штрафы дают. А вот Беларусь отличилась варварством. Потому не акция запомнится, запомнится это дикое, бешеное варварство.

Но я даже не об этом сейчас думаю.

Вот посол Беларуси в Украине Валентин Величко — немолодой уже человек, основательной партийно-бюрократической советской школы. В прошлом министр по делам СНГ, заместитель министра иностранных дел, кандидат экономических наук. Уже много лет вдохновенно рассказывает Украине о том, что злобные силы лгут и порочат нашу страну; бился как лев, что у нас все по закону, цивилизованно и демократично. Хотя в частных беседах, видимо, оправдывался, что все про нынешние белорусские порядки понимает, но как человек государственный работает не на режим, а на Беларусь. Потому что кто-то же должен...

Лично мне, конечно, Величко не исповедовался, но они все так говорят.

Посол работает не на режим, где людей хватают на вокзале, возле подъезда, на улице, выволакивают из квартиры, из больницы, кидают в машину, увозят в неизвестном направлении, издеваются, а потом просят сказать "спасибо", что не убили. Его министр господин Мартынов также работает не на такой режим. Куратор министра в Администрации президента тоже считает себя не выродком, а образованным человеком. Правительство возглавляет доктор наук, член-корр, и нет никакого сомнения, что он тоже считает дикими порядки, когда людей вывозят в лес, издеваются, угрожают, снимают все это на видео...

Все по отдельности они вроде приличные люди. Внешне они, несомненно, Люди. Не зомби, не урки, не маньяки, не обкуренные, не обколотые, не в маразме. Если не будут найдены виновные в жестком ответном "перфомансе" с девчатами из FEMEN, а это сделать очень просто, найдется ли среди них на самом деле Человек, который положит служебное удостоверение на стол? Хотя бы просто потому, что не нанимался работать садистом, помогать садистам, зарабатывать на их содержание деньги или их оправдывать...

Мы все скоро узнаем, кто окажется лысым.

*(Продолжение темы на 2-й стр.)*

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## Пакуты з-за роднага сцяга

Памятаеце здымак з Віцебска — бел-чырвона-белы сцяг на велічэзнай навагодняй ёлцы? "Правапарушальніка", які для многіх беларусаў стаў сапраўдным героем, міліцыя і да сёння не пакідае ў спакоі. Зараз Сяргею Каваленку пагражае да трох гадоў турмы.

Супраць віцебскага актывіста распачынаюць крымінальную справу за парушэнне рэжыму ўмоўнага пакарання. "Хатнюю хімію" ён адбывае менавіта за тое, што вывесіў бел-чырвона-белы сцяг на гарадской ёлцы ў 2010 годзе. Сяргей Каваленка лічыць абвінавачанні супраць яго беспадстаўнымі і ў знак пратэсту з 19 снежня ён абвясціў галадоўку, знаходзячыся ў ізалятары часовага ўтрымання. Па крайняй меры, так сцвярджае жонка Сяргея — Алена Каваленка. За якое парушэнне мужа хочуць упячы за краты, Алена не ведае.

*"Гэта ўсё нейкі здзек!* — гаворыць жанчына. — *10 снежня яго забралі ў інспекцыю па выкананні пакаранняў, каб падпісаць нейкія дакументы. Аднак адтуль Сяргея завезлі ўжо ў Першамайскі РАУС, дзе сказалі, што ён парушае рэжым адбыцця пакарання. Дадому муж ужо не вярнуўся, яго даставілі ў ізалятар часовага ўтрымання, сказаўшы, што 20 снежня будуць судзіць. Але ў 14.00, як абяцалі, у суд яго не прывезлі. Замест гэтага зноў завезлі ў Першамайскі РАУС на допыт да следчага. Нам з ім не далі нават паразмаўляць! Ён толькі сказаў, пакуль яго заводзілі ў кабінет, што абвяшчае галадоўку ў знак пратэсту".*

На даны момант Алене Каваленка патлумачылі толькі адно: Сяргея вінавацяць паводле артыкула 415 Крымінальнага кодэкса "Ухіленне ад адбыцця пакарання ў выглядзе абмежавання волі". Гэты артыкул прадугледжвае пакаранне да трох гадоў пазбаўлення волі.

*"Я не ўяўляю, што яны там пішуць супраць Сяргея. У нас двое дзяцей, меншай дачцэ паўгода, я сяджу з ёй. Сяргей больш займаўся старэйшым сынам, ён у нас першакласнік, яго трэба і са школы сустрэць, і на трэніроўку адвесці, і ў музычную школу... Я проста не ведаю, што цяпер будзе",* — гаворыць Алена Каваленка.

Пакуль Сяргей Каваленка затрыманы на трое сутак. Што да парушэнняў рэжыму адбыцця пакарання, то 24 лістапада яму прапанавалі падпісаць дакумент, паводле якога скарачаецца асабісты час: калі раней Сяргей Каваленка мусіў знаходзіцца дома пасля 21-й гадзіны, то цяпер — ужо пасля 19.30. Актывіст адмовіўся, бо не хацеў згубіць працу: ён прыватны прадпрымальнік, робіць рамонты ў кватэрах, і нярэдка яго паслугі замаўляюць менавіта ў вечаровы час. Жонка не выключае, што менавіта гэты факт мог стаць падставай для крымінальнай справы супраць актывіста. Тым болей што тады ж яго абвінавацілі і ў хуліганстве: нібыта ён нецэнзурна лаяўся, адмаўляючыся падпісваць дакумент.

Сяргей Каваленка падаў некалькі скаргаў у абласную пракуратуру, дзе напісаў пра некарэктнае стаўленне да сябе з боку работнікаў інспекцыі па выкананні пакаранняў. Магчыма, цяперашняе затрыманне і ёсць адказ?

**Ігар МАРОЗАЎ.**

### КАЛІ ВЯРСТАЎСЯ НУМАР

Пакрысе стала высвятляцца, якія парушэнні адбывання пакарання знайшла ў Каваленкі міліцыя і за што яму пагражаюць арыштам.

Па папярэдняй інфармацыі, супрацоўнікі Дэпартамента выканання пакаранняў угледзелі чатыры парушэнні з боку Каваленкі. Так, у жніўні мінулага года ён спазніўся дахаты. 24 сакавіка яго затрымалі са сцягамі, а потым ён таксама спазніўся дадому, бо насіў скаргу на дзеянні міліцыянтаў у пракуратуру. 8 кастрычніка Каваленка вадзіў сына на хакей, і яго зноў затрымалі. Адсочванне такіх парушэнняў, пагадзіцеся, вельмі падобнае на мэтанакіраванае паляванне.

РАКУРС




*Совет Республики не стал спорить с главой государства и единогласно (?!) утвердил назначение Лидии Ермошиной главой Центральной комиссии по проведению выборов и референдумов. Эта ожидаемая новость вдохновила нашего внештатного художника взяться за карандаш...*

ЗДАРЭННЕ

## Беларус пабыў у закладніках?

СМІ Венесуэлы паведамляюць пра тое, што ў Каракасе быў захоплены віцэ-консул беларускага пасольства.

Згодна з паведамленнямі, інцыдэнт адбыўся 16 снежня прыкладна ў 22 гадзіны каля аднаго з супермаркетаў у раёне Санта-Эдувіхіс на поўначы горада.

Група ўзброеных злачынцаў на двух аўтамабілях заблакіравала машыну дыпламата і выкрала яго, запатрабаваўшы грошы пад пагрозай смерці. У ходзе паліцэйскай аперацыі віцэ-консул быў выяўлены ў 12 км ад месца выкрадання, у раёне Эль-Параіса ў заходняй частцы Каракаса, у 2.30 ночы. Называецца ў паведамленнях і імя дыпламата, але зразумець, пра каго ідзе гаворка, немагчыма: Aleksamdr Anekcahap Wkatynob Shakcahap.

Інтэрнэт-партал TUT.by са спасылкай на свае крыніцы паведамляе, што быў выкрадзены консул Аляксандр Шкатулаў. Дыпламат быў вызвалены пасля атрымання злачынцамі выкупу.

Атрымаць афіцыйныя каментары пакуль не ўдалося. У пасольстве Беларусі ў Каракасе спрацоўвае факс, а ў спісе супрацоўнікаў на сайце дыпмісіі Шкатулаў не значыцца. Ёсць два іншыя Аляксандры: аташэ па пытаннях абароны, ваенны і ваенна-паветраны аташэ Аляксандр Аляксандраў і саветнік па палітычных і консульскіх пытаннях Аляксандр Варонін.

У той жа час, як паведамляе БелаПАН, некаторая інфармацыя пра дыпламата Аляксандра Шкатулава ёсць на яго старонцы ў сацыяльнай сетцы "Фэйсбук". Згодна з ёй, ён "скончыў Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт і Дыпламатычную акадэмію МЗС Расіі, валодае англійскай, іспанскай і польскай мовамі, "у цяперашні час знаходзіцца ў Паўднёвай Амерыцы".

СМІ Венесуэлы адзначаюць, што, нягледзячы на ўзмацненне мер бяспекі, напады на замежных дыпламатаў працягваюцца. Так, у лістападзе 2009 года ў Венесуэле загінуў 35-гадовы перакладчык ВА "Беларуснафта", выпускнік МДЛУ Аляксандр Сярцоў.

### ТЫМ ЧАСАМ

Прэс-сакратар Міністэрства замежных спраў Андрэй Савіных заявіў БелаПАН: *"Забеспячэнне бяспекі супрацоўнікаў беларускіх дыпламатычных прадстаўніцтваў за мяжой мае вышэйшы прыярытэт. Інфармацыя па гэтай тэме носіць закрыты службовы характар. Па відавочных прычынах мы не будзем каментаваць гэтыя пытанні".*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
23 СНЕЖНЯ 2011 г.

ПАРАЛЛЕЛИ

# Кто стал лучше жить после распада СССР...

Братские отношения между странами стали рыночными: одни живут за счет нефти, а другие им делают ремонт.

За годы реформ жить стали лучше только страны Балтии, Россия, Беларусь и Казахстан.

Два десятка лет назад союзным республикам было предложено свободы и независимости столько, сколько смогут унести.

Вот и выселялись из громадной коммунальной квартиры 15 союзных сестер, каждая со своей котомкой. 20 лет — достойный срок (успели вырасти дети, которые не жили в СССР), чтобы подводить экономические итоги. Стали ли жить лучше граждане бывшего Союза?

С точки зрения статистики, начало 90-х — бедовое время. Дикая инфляция, свободное плавание нацвалют, реформы, бедность и полное непонимание, как жить дальше. Больше всего пострадали Таджикистан, Грузия, Молдова, Азербайджан и Украина — к середине 1990-х их ВВП (стоимость произведенных товаров и услуг) сократился в 2 раза.

Получилось, как в поговорке: врозь нам скучно, вместе тесно. По разные стороны границ оказались не только родственники, но и производства, сырье, специалисты. Поэтому разбежавшись, скоро пришлось объединяться хотя бы в Союз Независимых Государств. Но восстановиться экономически после глубокого падения, как фиксирует статистика стран — бывших союзных республик, удалось только к 2006 году, и то не всем.

— Развитие стран проходило очень неравномерно, например, экономику стран Балтии определило их вхождение в Евросоюз, — комментирует **Дмитрий ВЕСЕЛОВ,** сотрудник лаборатории макроэкономического анализа Высшей школы экономики. — Отделившись от одного рынка, они присоединились к другому. Поэтому мы видим хорошие показатели и по ВВП, и по уровню доходов населения. Отдельно стоит выделить страны Средней Азии — для них все эти 20 лет главной задачей было выжить в качестве самостоятельных государств — тут не до экономического развития. Есть страны, которые сделали ставку на ресурсы, — Россия, Казахстан, Азербайджан, Туркмения. Последние две страны живут за счет распределения ренты от продажи нефти и газа. Казахстан при сильной ресурсной зависимости делает попытки диверсифицировать экономику — развивает инфраструктуру, есть программа подготовки специалистов.




## Сидим на ресурсах

Грузия стоит особнячком. С одной стороны, по экономическим показателям страна среди аутсайдеров. Но с другой — Грузия делает ставку на привлечение бизнесменов: страна вырвалась на первые строчки международных рейтингов по легкости ведения бизнеса, конкурентной среды, низкой коррупции. Так в чем же проблема? По мнению экспертов, беда именно в том, что рядом нет большого рынка для сбыта своей продукции (точнее есть — Россия, но она после известных событий закрыта для Грузии).

Украина особых экономических успехов не добилась. Энергозависимость от России растет, хотя она по-прежнему богата углем, рудой и зерном.

Молдова успешно донашивает советское наследие: от заводов до сельскохозяйственной техники. Обновками страна похвастаться, увы, не может.

Таджикистан оказался беднейшим осколком империи. Львиную долю средств присылают работающие в России гастарбайтеры. В Кыргызстане дела обстоят также плачевно.

Армению природа ресурсами обделила. Приходится худо-бедно развивать бизнес и производство. А что же Россия? Ей досталось от Советского Союза больше всех: и хорошего, и плохого. Зависимость от цен на нефть уже притча во языцех. И все-таки, не считая стран Балтии, Россия остается лидером и по производству, и по уровню жизни. Не то чтобы в России построили много, просто остальные страны сделали еще меньше. За 20 лет самые богатые россияне стали вдвое богаче, самые бедные — в 1,5 раза беднее, подсчитали в Высшей школе экономики.

## Желание объединиться

Кто выиграл, а кто проиграл от распада СССР? Судя по скупым статистическим цифрам, в минусе оказались Армения, Грузия, Кыргызстан, Молдова, Таджикистан, Узбекистан и Украина. Остальные страны во многом благодаря высоким ценам на ресурсы догнали и немного перегнали советский уровень.

— Для развития экономик нужно объединяться, — уверен Дмитрий Веселов. — Вот мы и видим интеграцию России, Беларуси и Казахстана. Маленьким странам в одиночку и выжить сложно.

**Нигина БЕРОЕВА**, kp.ru.

АБЗАЦАМ

## Парламенцкія выбары пройдуць у верасні

Паўнамоцтвы дзеючага парламента заканчваюцца 25 кастрычніка, такім чынам, выбары павінны прайсці не пазней за 25 верасня, паведаміла Лідзія Ярмошына. Старшыня Цэнтрвыбаркама адзначыла, што кампанія будзе вераснёўская і пачнецца яна ў чэрвені.

## Афіцэраў паболела

Пра гэта паведаміў першы намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення кадраў Міністэрства абароны палкоўнік **Віталь Салацін**. Асноўная крыніца папаўнення — выпускнікі ваенных навучальных устаноў. Так, у 2011 годзе ў органы кіравання, злучэнні і воінскія часці прыйшло 736 выпускнікоў ваенных ВНУ. На службу па кантракце з запасу — 128 афіцэраў. Аднак іх у беларускім войску па-ранейшаму не хапае.

## А сірот не менее

У Беларусі расце колькасць дзяцей, бацькі якіх памерлі, прызнаны недзеяздольнымі, абмежавана дзеяздольнымі або не могуць выконваць свае абавязкі па стане здароўя. Аб гэтым паведаміў начальнік упраўлення сацыяльнай і выхаваўчай працы Міністэрства адукацыі **Юрый Емяльяненка**. Паводле яго слоў, нягледзячы на зніжэнне колькасці сацыяльных сірот, якое адзначаецца з 2007 года, у Беларусі не ўдаецца паменшыць колькасць дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў. Штогод органы апекі выяўляюць і ўладкоўваюць на выхаванне каля 4 тысяч дзяцей, якія пазбавіліся апекі бацькоў.

## Расшукваецца... альфонс

Кастрычніцкім РУУС Мінска абвешчаны ў вышук 24-гадовы раней неаднаразова судзімы мінчанін, які падазраецца ў здзяйсненні крадзяжу ў асабліва буйным памеры ў сваёй блізкай знаёмай. Устаноўлена, што з 30-гадовай мінчанкай хлопец пазнаёміўся ў кастрычніку мінулага года. Жанчына падарыла свайму каханку новую "Аўдзі А6", аплаціла паездку на адпачынак у Турцыю, перасяліла да сябе ў кватэру, давала грошы на кішэнныя выдаткі. Аднак малады чалавек вырашыў завесці новы раман з яшчэ адной паспяховай бізнеслэдзі. Для гэтага спатрэбілася шмат сродкаў, і таму хлопец інсцэніраваў абрабаванне кватэры і выкраў у сужыцелькі 48 мільёнаў рублёў. Калі ж стала вядома, што нападу бандытаў на кватэру не было, малады чалавек збег.

ТАКОЕ ЖЫЦЦЕ

# Да пары церпяць...

*Мінскі электрамеханічны завод... У часы росквіту на ім працавала каля 14.000 чалавек, зараз — прыкладна паўтары тысячы.*

У раздзеле "Вакансіі" на сайце МЭМЗ знаходзіцца спіс з 16 пазіцый. Заводу патрабуюцца загадчык склада, інжынер па інструменце, наладчык халоднаштамповачнага абсталявання, газаэлектразваршчык, грузчык, слесар-зборшчык радыёэлектроннай прамысловасці і прыбораў, прыбіральшчыца... Гэта сведчыць аб тым, што прадпрыемства набірае людзей, жыве. Але як жыве?

Па стане на 1 верасня, калі ў краіне панаваў фінансавы крызіс і ледзьве не штодня перапісваліся цэннікі ў крамах, самы высокі аклад Мінскі электрамеханічны завод прапаноўваў кандыдату на месца слесаразборшчыка радыёэлектроннай прамысловасці і прыбораў — 2 мільёны рублёў, самай нізкааплачваемай вакансіяй была пасада кладаўшчыка — 700 тысяч.

*"Асаблівага ажыятажу і жадання ісці на завод зараз у людзей няма",* — расказвае Іван Афанасьевіч Лаўрыновіч, які працуе на Мінскім электрамеханічным заводзе наладчыкам станкоў з лічбавым праграмным кіраваннем.

Іван Лаўрыновіч — кадравы рабочы, яго прафесіяналізму могуць пазайздросціць многія.

*"Па шчырасці, мне грэх скардзіцца,* — працягвае Іван Лаўрыновіч. — *Пра сярэдні заробак на заводзе сказаць не магу, скажу за сябе: калі вясной я атрымліваў 2 мільёны 400 тысяч, то зараз зарплату праіндэксавалі трохі. Вось апошнім разам выйшла 3 мільёны 200 тысяч. Але ўлічвайце, што ў мяне сярод рабочых МЭМЗ зараз адна з самых высокіх заработных плат".*

Тым не менш Іван Афанасьевіч кажа, што, як і ўсе, адчуў на сабе наступствы фінансавага крызісу ў краіне.

*"Тут усё відавочна, кошты на прадукты ўдвая-ўтрая ўзраслі, а зарплату хоць і праіндэксавалі, але не ў такой прапорцыі: кажуць, у завода няма такой магчымасці. Асабіста я ў краму па прадукты хаджу рэдка, у асноўным гэтым займаецца жонка — прыйдзе з магазіна і расказвае мне, як усё падаражала. Есці мы, канечне, меней не сталі, але зараз купляем прадуктаў менш, чым раней маглі сабе дазволіць. Ды і на цэннікі цяпер увагу звяртаем, хаця раней пытанне, якую каўбасу купляць — танную ці больш дарагую, стаяла не так востра. Але хлусіць не буду: на самае неабходнае — харчаванне, аплату камунальных плацяжоў — майго заробку хапае".*

Іван Лаўрыновіч кажа, што зараз на заводзе ў самым цяжкім становішчы апынуліся маладыя рабочыя: "Уявіце, чалавек закончыў вучылішча, атрымаў спецыяльнасць, прыйшоў на завод і атрымлівае мільёна паўтара. Як яму жыць? Нашы маладыя рабочыя нядаўна нават да кіраўніцтва хадзілі, але выбіць павышэнне заробкаў у іх так і не атрымалася. Не дзіва, што маладыя зараз неахвотна на завод ідуць, шукаюць лепшай долі ў іншых сферах. У многіх жа сем'і, іх карміць трэба. А тыя, што ў нас працуюць, церпяць невялікую зарплату па розных прычынах: хтосьці з-за таго, што жыве ў заводскім інтэрнаце, а звальненне азначае высяленне, хтосьці з-за таго, што не мае дастатковага вопыту, а толькі замацоўвае веды, атрыманыя ў прафтэхвучылішчы..."

Але пры ўсім гэтым рашучага пратэсту супраць маленькіх зарплат у рабочых МЭМЗ няма.

*"Канечне, многія не задаволены,* — прызнаўся Іван Лаўрыновіч. — *Але адкрыта ніхто асабліва не пратэстуе. Так, у "курылцы" збяруцца людзі, паабураюцца суадносінамі цэн і зарплат — і зноў за працу... Ну а што тут зробіш? Ды і ўсім зараз цяжка".*

На любым заводзе, акрамя рабочых, працуюць людзі "пабочных спецыяльнасцяў". Архіварыусам на Мінскім электрамеханічным заводзе працуе пенсіянерка Галіна Вікенцьеўна Валуевіч. Заробак, які яна атрымлівае, — 900.000 рублёў. *"Гэта пасля таго, як у кастрычніку паднялі зарплату на 10 працэнтаў,* — гаворыць яна. — *Ці хапае на жыццё?.. Вы што, смеяцеся? Нават калі да заробку пенсію прыплюсаваць — няшмат атрымліваецца. У крамы я рэдка хаджу, каб не псаваць нервовую сістэму. Проста зразумець не магу: адкуль такія цэны пры такіх заробках і пенсіях?! Я проста так у краму за пакупкамі не магу ісці, заўсёды да цэннікаў прыглядаюся і выбіраю, што таннейшае. Сто тысяч з сабой бяру ў краму — каўбасы не самай дарагой куплю, хлеб, батон, маянэз, ёгурта ўнукам, нешта з хіміі бытавой — і ўсё, лічы, няма 100 тысяч. І са сваім заробкам я магу 9 раз на месяц у краму схадзіць... Хіба гэта нармальна?"*

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

СКАНДАЛ

*Ганна ГУЦОЛ:*

# «Адзінае, што можа разбурыць гэтую ўладу, — адсутнасць страху»

*Актывісткі ўкраінскага руху Femen абяцаюць адплаціць беларускім уладам за здзекі са сваіх сябровак.*

## Прыйшла, распранулася, перамагла!

Раніцай 21 снежня тры ўкраінскія дзяўчыны з грамадскага руху Femen перасяклі беларуска-ўкраінскую мяжу на машыне з дыпламатычнымі нумарамі. Консул Украіны ў Беларусі асабіста даставіў у Кіеў **Іну Шаўчэнка, Аксану Шачко** і **Аляксандру Нямчынаву**.

На дзень раней трох дзяўчат, якія зладзілі пікет ля будынка беларускага КДБ, невядомыя схапілі на сталічным аўтавакзале. Актывістак вывезлі з горада, здзекаваліся, пагражалі нажом, аблілі "зялёнкай" і прымушалі пазіраваць перад камерай распранутымі. У рэшце рэшт збітых, напалоханых дзяўчат выкінулі каля мяжы з Украінай... Прадстаўніцы Femen упэўнены, што жорсткія здзекі — справа, арганізаваная беларускім Камітэтам дзяржбяспекі.

*"Не, нашы людзі іх не чапалі, як бы камусьці ні хацелася гэта ўявіць,* — заявіў старшыня КДБ **Вадзім Зайцаў**. — *Я лічу, што развіваецца правакацыя, а вось мэта, характар і хто стаіць за гэтым, гэта мы разбяромся ў бліжэйшы час".*

Вінаваты ўлады Беларусі, і яны павінны адказаць за свае дзеянні, агучвае агульнае меркаванне руху Femen яго лідар **Ганна Гуцол**. Сваю дзейнасць у Беларусі ўкраінская грамадская кампанія зварочваць не збіраецца.


У Італіі карабінеры імі любаваліся...

— *Адзінае, што можа разбурыць гэтую ўладу, — адсутнасць страху,* — распавяла "Народнай Волі" спадарыня Гуцол. — *Улада больш за ўсё баіцца пратэсту, насмешак. Мы абавязкова зладзім пікеты ў Мінску. Безумоўна, улічым вопыт мінулай аперацыі. Я думаю, што падобная сітуацыя не паўторыцца.*

**— Вы паабяцалі пагаліць пасла Беларусі ва Украіне. Гэта толькі першы крок супраць беларускіх улад?**

— *Уся міжнародная супольнасць павінна ведаць аб тых жахах, якія адбываюцца ў Беларусі. Гэта не проста казкі, а рэальнасць. Мы будзем прасіць міжнародную грамадскасць прымаць больш жорсткія рашэнні ў дачыненні да рэжыму Лукашэнкі.*

**— Пакуль афіцыйныя ўкраінскія ўлады занялі нейтральную пазіцыю. Як вы ацэньваеце гэта?**

— *Консул Украіны вельмі дапамог нам. Мы ўдзячны яму за тое, што ён зрабіў усё магчымае для таго, каб максімальна хутка забраць нашых дзяўчат. Пры гэтым мы незадаволены пазіцыяй нашага МЗС. Яны не падалі афіцыйную ноту пратэсту. Мы будзем патрабаваць ад іх, каб гэты канфлікт быў прадстаўлены на належным узроўні.*

*Мы жадаем, каб нам даказалі, што ўкраінская ўлада можа абараніць сваіх грамадзян.*

## Людзі ў Беларусі вельмі запалоханы

Яшчэ да трагічнага здарэння пасля "голай" акцыі пратэсту перад КДБ Ганна Гуцол прызнавалася, што "на справу" ў Мінск едуць самыя лепшыя і праверaныя барацьбіткі. Моц сваіх перакананняў Іна Шаўчэнка, Аксана Шачко і Аляксандра Нямчынава даказалі, распавёўшы аб сваіх пакутах на вулічным брыфінгу ў Кіеве ўжо праз некалькі гадзін пасля вяртання з Беларусі.

— *Людзі ў Беларусі вельмі запалоханы*, — патлумачыла Аксана Шачко абыякавасць мінчан, якія бачылі, што невядомыя пацягнулі жанчын прэч з вакзала.

Па словах дзяўчат, дапамог ім толькі дзядзя Саша — жыхар вёскі Бекі, куды актывісткі выйшлі пасля трох гадзін блукання па лесе. Ды і то аднавяскоўцы адгаворвалі яго ад гэтага. Калі ў вёску прыехала міліцыя, дзяўчатам увогуле прапанавалі схавацца. Маўляў, гэта супрацоўнікі КДБ прыехалі завяршыць пачатую расправу.

— *Мы думалі, яны наладзяць за намі паляванне*, — сказала ў інтэрв'ю газеце "Взгляд" Аксана Шачко. — *Гэта сапраўдныя каты! Людзі, якія забівалі людзей. Гэта было па ўсім відаць...*

Дарэчы, была і яшчэ адна ахвяра. Чацвёртая ўдзельніца групы ўкраінскіх дзяўчат — відэааператар, падданая Аўстраліі **Кэці Грын** — была затрымана яшчэ падчас самой топлес-акцыі і дэпартавана ў Літву.

Прадстаўніцы Femen ужо не раз у прамым сэнсе станавіліся грудзямі за правы іншых людзей. Выступалі супраць сексуальнага рабства, увядзення еўра, падтрымлівалі расійскіх апазіцыянераў і топлес праводзілі ў Італіі Сільвіо Берлусконі... На радзіме і за мяжой прадстаўніцы Femen мелі канфлікты з паліцыяй, але наказвалі дзяўчат штрафамі і адміністрацыйнымі арыштамі. У Беларусі ўсё пайшло па іншым сцэнарыі...

— *Яны думалі паздзекавацца з нас, запалохаць смерцю,* — кажа Іна Шаўчэнка. — *Былі ўпэўнены, што мы будзем маўчаць. Мы былі гатовы адседзець, але яны вырашылі абраць для нас іншы сцэнарый. Нам прапанавалі выбраць паміж жыццём і смерцю, каб мы выбралі жыццё і спынілі змаганне!*

РЭЗАНАНС

## Як вы ацэньваеце тое, што адбылося з актывісткамі Femen у Беларусі?

**Ніна СТУЖЫНСКАЯ, старшыня Беларускай жаночай лігі:**

— Прыкра і сорамна, сорамна і прыкра... Думаю, што білі дзяўчат з Femen тыя ж бравыя хлопцы, што распраўляліся з жанчынамі на Плошчы. Любое праяўленне добрай волі, калі яно нават не тычыцца палітычных рашэнняў у нашай краіне, выклікае рэакцыю адарвання. Заткнуць, забіць любую актыўнасць, любое праяўленне волі, любую нязгоднасць...

Навошта былі гэтыя дзікунскія паводзіны? Праўда, ведаючы, хто правіць баль у краіне, здзіўляцца няму чаму... Калі афіцыйныя ўлады Украіны прамаўчаць, значыць, яны дазваляюць усё тое, што адбылося з дзяўчатамі.

**Людміла ПЕЦІНА, сустаршыня грамадскага аб'яднання "Жаночы незалежны дэмакратычны рух":**

— У мяне няма сумневу ў праўдзівасці таго, што дзяўчаты расказвалі. Было даволі выпадкаў, калі такімі сродкамі ў Беларусі распраўляліся з апанентамі ўлады. Можна ўзгадаць 1995 год, калі збілі дэпутатаў парламента. Іх таксама пакалацілі, вывалаклі ў чым ёсць на вуліцу і кінулі ў розных канцах горада... Гэты стыль мне вельмі знаёмы.

Я захоплена мужнасцю ўкраінскіх дзяўчат. Яны ведалі, куды едуць, і ведалі, на што можа пайсці наша ўлада. Улада гатова ў любым выпадку прымяняць сілу. Дзяўчаты малайчыны, што вырашыліся так прыцягнуць увагу да беларускіх праблем. У іх гэта выдатна атрымалася. А для нашых улад гэта сорам і ганьба.

**Святлана БЯСТУЖАВА, старшыня грамадскага аб'яднання "Беларускі жаночы інфармацыйна-каардынацыйны цэнтр":**

— Я супраць любога гвалту. У адносінах да жанчын гэта ўвогуле недапушчальна. Што б там ні было, праяўляць гвалт не трэба. Пакуль чалавецтва не навучыцца дамаўляцца, у яго проста не будзе перспектывы. Ну колькі можна такімі гвалтоўнымі метадамі вырашаць усе праблемы? У першую чаргу гуманізм павінен сыходзіць ад улады, бо ў рэшце рэшт улада адказвае за ўсіх. Калі ўлада праяўляе гвалт, то яна абавязкова атрымае яго ў адказ.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

